# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Біскупская вул. 12. Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым провьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана кожнага нумару 30 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

Год I. | Вільня. Пятніца, 11-га лістапада 1921 г. | № 20.

## Ўгодкі Слуцкага паўстаньня.

Гісторыя кожнага народу складаецца з выдатнейшых падзеяў жыцьця яго.

Як у жыцьці асобнага чалавека, так і ў жыцьці цэлага народу ёсьць доўгая чарга шэрых будняў і ёсьць асаблівыя, так званыя сьветлыя, ўрачыстыя дні—сьвяты. Ёсьць дні роўнага, спакойнага жыцьця і ёсьць часамі страшныя дні няшчасьцяў, трывог і ахвярнасьці.

Няшчасьцем лічылі случчане год таму назад навалу на іх родныя палеткі няпрошаных гасьцей з цяпер чырвонае ад крыві Маскоўшчыны.

І яны няроўнымі, але нязвычайна адважнымі, сваімі сіламі рашылі процістаць гэтым гасьцём, не пакарацца ім, як нейкія іх падданыя.

Паўстаньне ў Случчыне паказала ўсім культурным народам, што Беларускі Народ, гэтак цярпялівы й пакорны народ, вырас ужо з ранейшых рабскіх рамаў нацыянальнай несьвядомасьці.

14-га лістапада 1920 году ў Слуцку сабраўся зьезд з усяго павету. Праз два дні ўжо была выбрана Рада Случчыны, якая рашыла ня здацца пакорна ворагу-наезьніку і ў страшэнным імпаце амаль што шалёнай адвагі пачала з ім самую звычайную аружную барацьбу без вялікіх, а праўдзівей бяз ніякіх шансаў на ўдачу.

Паўстаньне набрала характару народнае стыхіі.

Па офіцыяльных вестках бальшавіцкае ўлады, Слуцак пакінулі больш як 12 тысяч „дэзэртыраў“.

На гэткую паважную грамаду паўстанцаў удалося набыць усяго толькі... 500 якіх-небудзь стрэльбаў дый то розных бракованых, якія рэмонтаваліся ў сваёй уласнай паўстанцкай майстэрні, накшталт колішняе слаўнае Запарожаскае Украінскае Сечы, дзе казак сам умеў майстраваць усё.

Сялянства ахвяроўвала ўвесь свой набытак на аўтар Бацькаўшчыны, бо паўстаньне йшло пад штандарам і імем Беларускай Народнай Рэспублікі.

Ніякіх прыкрых эксцэсаў з жыдоўскім насяленьнем, што так звычайнымі былі для розных „бацек“ і гэнэралаў пры грамадзянскай вайне,—ў часе слуцкага паўстаньня ня было ані званьня, бо й не магло быць.

Ваюючы за волю свайго роднага народу, слуцкі паўстанец, жыўшы з ахвяраў і сам будучы ахвярным, з вялікай дастойнасьцю ўмеў шанаваць сьвятое права волі кожнага іншага народу...

Адна якая-небудзь брыгада паўстанцаў трымала фронт на больш, як 60 кілёмэтраў ушыркі проці ворага, хто ведае ўва сколькі разоў дужэйшага.

І толькі тады была пяройдзена дэмаркацыйная мяжа і складзена зброя на занятай польскім, гатовым да рыскага міру, войскам, тэрытотрыі, калі далейшая барацьба з чырвонаю арміяй бальшавікоў стала зусім немагчымаю і лішняю.

Мясцовы беларускі элемэнт з чырвонае арміі ахвотна перабягаў на бок паўстанцаў пад родны сьцяг свой і бальшавікі змушаны былі кінуць на Слуцкую брыгаду розныя чужаземныя, з кітайцаў і іншых наймітаў зложаныя, аж 3 дывізіі.

Паўстаньне ў Случчыне, якое адбылося год таму назад напэўна застанецца на страніцах гісторыі Беларускага Народу, таму што яно выходзіць далёка за межы чыста-мясцовага значэньня.

Збройны протэст проці чужацкага наезду першаю зрабіла Случчына і гэтага ад яе ніхто не адніме.

У першыя ўгодкі гэтага рашучага стыхійна-народнага дзеяньня нельга ня спомніць і пралітай беларускай крыві за сьвятыя ідэалы, Бацькаўшчыны і чыстае веры абуранае народнае масы ў гэтыя ідэалы, і вялікай ваяцкай адвагі нашага ціхага селяніна, даросшага да самаахвярнасьці.

Вечная памяць аб тых, хто год назад палажыў галаву сваю за волю і лепшую будучыну Бацькаўшчыны павінна і будзе жыць сярод нашага сярмяжнага народу.

А хто жывы застаўся з вялікае дружыны паўстанцаў, той горда можа спомніць перажытыя дні ваеннай буры, можа лепшыя дні свайго, з рызыкай ахвяроўванага Бацькаўшчыне, жыцьця.

**Вучыцялі й вучыцелькі!**

Працуючы ў вёсцы, Вы лёгка можаце сабрацьваколічныя беларускія народныя песьні і гэтым укладзеце новы скарб у наш друк, прыслаўшы сабранае ў „БЕЛАРУСКІ ЗВОН“.

Суліма.

## Ад безьзямельнага батрацтва да дзяржаўнай незалежнасці.

*Прыклад Індыі.*

IV.

Мы паказалі ў ранейшым артыкуле, што самы прынцып эканамічнай дыктатуры, само зьмяшаньне дыктатуры й эканомікі нясе ў сабе ўнутраную нязгоднасьць—завязь крызысу і крахаў.

„Загадваць прыродзе можна толькі пакараючыся ёй“, г. знач. яе законам,—кажа Бэкон.

Голай уладзе, гвалту над ёю злога чалавека прырода помстуе катастрофамі.

І сучасны імпэрыялізм так борзда прыйшоў да катастрофы сапраўды-ж таму, што да грахоўнага эканамічнага гвалту яшчэ дадаваў, ужо нямеўшы ніякіх апраўданьняў—ні з якога пункту гледжаньня—ваенны.

Ў ваенна-эканамічнай дыктатуры пачаў пераважаць і катастрофічна расьці элемэнт ваенны—узмацненьне азбройваньняў, у рэзультаце дыктатура прамысловага краю і конкурэнцыя іх паміж сабою сталі «неэканамічнымі», г. зн. пачалі рашаць і расьцягваці, пертвараць у нішто сваю ўласную творчую энэргію.

Як толькі тэхнічны гэніюш сусьветнага імпэрыялізму паставіў сабе мэтаю вытвар рэкорднае брызантнае гранаты, якая ідэальна рвучыся, г. зн. пертвараючы ў абсолютнае нішто патрачаныя на яе стварэньне масы чалавечае працы і энэргіі, пры гэтым яшчэ давала-б максімум руйнаваньня вакол сябе, і бачыў ува ўладаньні гэткаю гранатаю апошнюю аснову й галоўны спосаб для свайго панаваньня над аграрным (зямельным) краем і над конкурэнтамі па яго падняволеньню, дык—з гэтага момэнту навет для сьляпых стала ясным, што гэты брызантны, грахоўны, неэканамічны імпэрыялізм сам і лопне, накшалт свае гранаты, што яго сымволізуе.

Гэта і сталася.

Я не хачу сказаць, што сучасны імпэрыялізм сам лопнуў зусім, але што ён пацярпеў колёсальны крах—гэта рэч зусім відочная.

Тыя жалезныя абручы, якімі былі скуты аграрныя краі, далі вялікія шчэліны.

Ведама, што ў пачатым краху пацярпелі й аграрныя краі, але яны бліжэй да зямлі і ім нізка падаць: яны і паб‘юцца менш і лягчэй стануць на ногі.

Цяпер бязумоўна пачнецца доўгі пэрыяд ліквідацыі прамысловага крызысу, пэрыяд, які ведама, што скарыстаюць аграрныя краі дзеля свайго вызваленьня.

Наскольні вялікі цяперашні прамысловы крызыс відаць з таго, што наймагутнейшая эканамічная дзяржава сьвету—Амэрыка—выкідае на вуліцу сотні тысяч рабочых, аб падтрыманьні якіх гаспадарствам навет спэцыяльна спамінаў у аднэй з сваіх праграмных заяваў прэзыдэнт Гардынг.

Лёйд-Джордж у апошняй сваёй прамове адкрыта сказаў, што Англія за апошнія сто гадоў не перажывала гэткага моцнага й небясьпечнага крызысу.

Аб іншых меншых спрутох імпэрыялізму й гаварыць няма чаго.

Амэрыканскі даляр лічыцца ўзорам стойкае валюты, аднак аб абясцаненьні гэтага залатога даляра пішуцца цэлыя артыкулы і кнігі.

Золата, якім яшчэ вельмі нядаўна залівалася Амэрыка, адтуль адлівае.

І калі мы паглядзімо, куды-ж адлівае гэтае золата, дык, паводлуг спэцыяльнае статыстыкі, паданай адным францускім спэцыяльным журналам, выходзіць, што амэрыканскае золата шырокім ручаём цячэ ў найбагатшы й найтыповейшы ў сьвеце аграрны край—у Індыю, край, што дае найбольшы лік усялякага сыр‘я і страўных прадуктаў.

І мы бачым з тае самае спэцыяльнае статыстыкі, што вельмі высока стаяць валюты ўсіх аграрных краёў, якія жывуць нормальным гаспадарча-палітычным жыцьцём, а курс індыйскае рупіі—рэч зайздрасьці навет для амэрыканскага залатога даляра.

І гэта ведама-ж ня столькі таму, што індыйскія грошы маюць солiднае забесьпячэньне ў золаце, сколькі таму, што яны з колёсальнаю лішкаю пакрываюцца тым, што цяпер даражэй за станьнеўшае золата, даражэй за ўсё на сьвеце: вытварамі прыроды—сыр‘ём і страўнымі прадуктамі.

Адраджэньне фізыякратычных тэорыяў у эканамічнай літэратуры ідэолёгічна асьвятляе гэту надыйшоўшую перавагу аграрных краёў—выняткова шчасьлівы мамэнт для іх эмансыпацыі.

Можна на гэта сказаць, што гэты-ж аграрны край якраз знаходзіцца сам у няволі вялізарнейшага з ненажораў сусьветнага імпэрыялізму, што значыць усё гэтае золата перальецца з кішаня аднаго ненажоры ў кішані другога.

Але тут вось і заўважаецца тое, што і павінна было прадбачыцца,—тое, аб чым мы толькі што гаварылі: аграрны край, багацейшы на сьвеце з ідэальна працавітым і здольным народам пачаў якраз цяпер спакойную, пляновую, дружную, непадатлівую ні на якую провокацыю ангельцаў, эпічную па сваіх разьмерах і рэлігійнаму напружаньню—барацьбу проці паняволеньня,—за сваю незалежнасьць.

У гэтай грандыёзнай, ахапіўшай усю Індыю, барацьбе асабліва цікава спакойная пэўнасьць, поўная выдзержка і цікавая асоба адзінага агульна-народнага павадыра, што мае нязвычайны магічны ўплыў на народныя масы, пры чым яго сьвяты аўторытэт прарока няхібны для ўсяго краю.

Ня менш важна й тое, што гэты рэлігійны рэформатар зьяўляецца ў той самы час сучаснае маркі эўропэйскім палітыкам—з поўнаю сілаю заходняй культуры і ўсіх мэтодаў яе вышэйшае актыўнасьці.

Тактыка гэтае барацьбы Індыі з Англіяй у Індыі выяўляе гэткую высокую й павучальную цікавасьць, што патрэбна, з браку месца для яе дэталічнага абгавору, даць аб ёй хоць-бы схэматычнае паняцьце.

Мэтод барацьбы, як і трэ‘ было спадзявацца ў аграрным краі, што маніцца выйсьці з пасыўнага становішча об‘екту эксплёатацыі і стаць самастойным суб‘ектам вольнае творчае чыннасьці, якраз і злучае ў цяперашнім момэнце абодва элемэнты: і пасыўнага спраціўленьня і актыўнае чыннасьці.

Вялізны рух, ахапіўшы ўсю Індыю, падносіцца роджанаю з odium‘у да Англіі адкідальнаю дырэктываю: „No Cooperation“, г. зн. не супрацоўнічаць з Анг-

ліяй, а ўнутры номінальнае «ангельскае Індыі» як-бы стварыць новую, сваю «індыйскую Індыю».

Спакойная пэўнасьць ува ўдачы й канцовай перамозе выказваецца і ў тым, што ніякіх рэпрэсіяў, ці асуджэньняў сярод прыхільнікаў „No Cooperation“, не выклікае другая вялізная таксама індыйская, незалежніцкая група, ці партыя, выбраўшая тактыку „Cooperation“—мэтод супрацоўніцтва.

Дык вось, адначасна, разам і мірна будуць істнаваць і працаваць як-бы дзьве Індыі, з якіх адна старая ангельская будзе, як і да твару старой, паміраць, а новая,—«Маладая Індыя»,—будзе расьці і разьвівацца.

Ангельцы, як расказваюць людзі, быўшыя там, ужо зразумелі ўсю паважнасьць палажэньня, ўсю сілу гэтае спакойнае пляновае, разьлічанае на доўгі пэрыяд тактыкі і... загадзя вывозяць музэі й бібліятэкі ў Лёндан, пакуль яшчэ маюць паслухняны ваенны апарат.

Барацьба йдзе па ўсім культурна-эканамічным фронце.

Як прыклад, падамо гэткі арганізованы спосаб: закупіўшы за наплыўшае ў край за яго сыр'ё золата,—за большую як ангельцы цану,—вялізную гандлёвую флёту, індыйцы зьдзейсьнілі арганізованы бойкот ангельскіх тавараў, закупляючы нямецкія.

Але праз тое, што нямецкія тавары, як вытвар пераможанай Нямеччыны, не дапушчаюцца пераможцамі ў Індыю, дык на падмогу нацыянальнай бойкоцкай флёце і проці Англіі выступіла верная саюзьніца апошняй—Японія, якая на нямецкія тавары кладзе свае штэмпэлі: «Made in Iapan»,—зроблена ў Японіі.

Конкурэнцыя прыяцялёў-ненажораў—адзін з магутных саюзьнікаў у барацьбе падняволенага аграрнага краю з прамысловым дыктатарам.

У Індыі мы бачым другі прыклад сучаснага аграрнага краю, краю, лічанага дасюль клясычным па сваёй пакорнасьці й безабароннасьці (пасьля нябывалага па жорсткасьці усьмірэньня вядомага паўстаньня сіпаеў--войскаў, зложаных з мясцовага насяленьня), якая пачала і акуратна, з поўнаю гарантыяю ўдачы, вядзе ў асабліва спагадных варунках сучаснага зацяжнага прамысловага крызысу, а значыць у пэрыяд доўгага паралюшу падняволіўшага яе ненажоры, — барацьбу за сваё эканамічнае й палітычнае, нарэшце, вызваленьне.

І калі на нашых вачох цяпер адбываецца пераход Ірляндыі з палажэньня падуладнага Англіі на палажэньне вольнага і роўнага саюзьніка, дык можна адважна сказаць, што навет нестарыя з нас убачаць тое самое зьявішча з Індыяй.

Працавітасьцю і баечнай творчаю сілаю прыроды краю створанае багацьце, тысячгадовая духоўная, паміж іншым, рэлігійна-моральная культура насяленьня, якая цяпер пачала плянова набываць патрэбныя дзеля сусьветнай конкурэнцыі паскораныя рытмы і тэмпы жыцьця і чыннасьці, ўзмацнеўшая агульна-нацыянальная еднасьць, змацованая толькі што ахапіўшаю ўвесь край новаю рэлігійнаю пропаведзьдзю вышэйсказанага павадыра Гатты, цьвёрдая вера ў сваю справу, падтрыманая яго гэніяльнаю асобаю—ўсё пры выняткова спагаднай коньюнктуры момэнту—ведама што забясьпечыць удачу.

Новы саюзьнік нашае Беларусі, па агульнасьці лёсу і мэты, ідзе як-бы наперадзе нас і падмога яго ў будучыне, хацябы й моральная для нас забясьпечана.

У кожным выпадку шляхі яго жыцьця і мэтоды барацьбы маюць для нас і высокую спачувальную цікавасьць і вялізную практычную павучальнасьць.

Ірляндыя й Індыя — яркія прыклады шчасьлівых аграрных краёў, якія як належыць удачна карыстаюцца крызысам сусьветнага імпэрыялізму ў ясна зразумелых і выразна абмяжованых задачах і мэтах нацыянальнага і дзяржаўнага вызваленьня.

Яны абедзьве цярпліва і плянова, маючы сваіх уласных, кроўна зьвязаных з краем, павадыроў, што выказваюць нацыянальную волю й жыцьцё, папраўляюць цяжкія грахі і праступныя абмылкі тых, хто прыгнятаў іх.

Іх павадыры ўжо тым добрыя, што ня робяць новых абмылак.

Як небясьпечна мець павадыроў, якія не стаяць на гэткай вышыні, як неразумна ставіць краю бязьмежныя, большыя за яго сілы, тэмпы і магчымасьці, задачы і мэты, як небясьпечна мець павадыроў, прыбыўшых з чужыны, хаця-б і спушчаных, ці скіненых з неба, каб адразу ашчасьлівіць раем зямным край,—з яркасьцю чырвонага мора крыві даказвае прыклад Совдэпіі.

Савецкая Маскоўшчына—гэта тыповы прыклад няшчаснага аграрнага краю, які замест таго, каб пэрыяд сусьветнага прамысловага крызысу скарыстаць дзеля папраўленьня грахоў і праступных абмылак імпэрыялізму, сам у момэнт найбольш спагадны дзеля барацьбы й эмансыпацыі аграрнага краю, робіць новыя абмылкі, грахі і праступленьні.

І ведама, што падобна да таго, як за грахі імпэрыялізму пачаўся сусьветны прамысловы крызыс, на шляху сваім разваліўшы і забіўшы ў Маскоўшчыне горад з яго прамысловасьцю, зусім гэтак сама за грахі проці нормальнае нацыянальнае палітыкі аграрнага краю расейская вёска разам ведама-ж з паміраючымі гарадамі перажывае нябывалы ў сусьветнай гісторыі крызыс аграрны.

Голад агульны ў найбагатшым аграрным краі, карміўшым сваім хлебам Эўропу, лепш за ўсё агаляе бязглуздасьць і праступнасьць таго, што павадыры Савецкай Маскоўшчыны ў мэтах Інтэрнацыяналу, а не Нацыяналу, як яны й ня тояць, у ёй вытвараюць.

І ведама, што лягчэй і прасьцей за ўсё гэта тлумачыцца тым, што ўсе гэтыя павадыры, захапіўшыя ўладу ў аграрным краі, зьяўляюцца кроўным прадуктам і пры тым тыповым—якраз-такі места і места-спруту,—седала сусьветнага імпэрыялізму.

Праз гэта, быццам забіваючы нацыянальны імпэрыялізм, яны толькі палягчаюць новае заваяваньне аграрнага краю прамысловым дыктатарам адным з суседзяў, калі ня ўсімі імі супольна.

Аб асаблівасьцях адносін места і вёскі ў нашай Беларусі, ў агульным падрахунку яе магчымасьцяў удачнай барацьбы пагаворым іншым разам.

---

# Проці монархізму.

„Вперед“ зьмяшчае гэткую рэзалюцыю, паданую праз Украінскае бюро прэсы ў Празе:

„Грамадзкія дзеячы Украіны, Кубані, Беларусі, Грузіі, прабываючыя на эміграцыі ў Празе, абмеркаваўшы палітычную сытуацыю, утвораную монархічнаю авантураю Кароля Габсбурга, констатуюць, што гэтую спробу агонізуючага монархізму вярнуць патрачаныя пазыцыі ня можна лічыць справаю абмяжаванага значэньня, бо аднаўленьне монархіі ў Мадзьяршчыне зьявілася-б вялізнаю пагрозаю, як для Чэхаславацкай Рэспублікі, так і для ўсіх іншых рэспублік сярэдняе і ўсходняе Эўропы, ў тым ліку і для Украіны, Беларусі, Кубані й Грузіі.

Вітаючы чэхаславацкі народ, што дружна падняўся проці рэстаўрацыі монархіі, падпісаныя грамадзкія дзеячы заяўляюць, што грамадзкія сілы названых дружных народаў маюць гатоўнасьць стаць побач з чэхаславацкім народам для барацьбы за рэспубліку ўсімі магчымымі спосабамі да арганізацыі вайсковых аддзелаў улучна“.

**М. Шапавал**, старшыня украінскіх грамадзян і палітычных дзеячоў у Празе.

**П. Крычэўскі**, старшыня Ц. К. беларускае партыі соц.-фэдэралістых.

**Л. Л. Быч**, старшыня Выканаўчага Камітэту грамадзка-палітычных дзеячоў Кубані.

**Г. Г. Аоліо**, прадстаўнік Ц. К. для Ч. С. Рэсп. соц.-дэмокр рабочае партыі Грузіі.

# З ПРЭСЫ.

## Рэакцыя.

Адноўлены выданьнем польскі тыднёвік „Przegląd Wileński“ (№ 1 за 1. XI. 1921). ў перадавым артыкуле „Рэакцыя“, як-бы дае адбой усёй дасюлешняй польскай палітыцы ў Сярэдняй Ліцьве, пішучы паміж іншым:

„Ў рэзультаце ўсясьветнай вайны зьдзейсьнілася ледзь частка ідэалаў, якім служыў „Przegląd Wileński“. Упаў царызм і вызваліліся падняволеныя ім народы, але душы, вырасшыя ў цемрах няволі, ня могуць дасюль асвойчыцца з слонцам і воляй прастору. Ня могуць зразумець жыцьця без кайданоў і... пашпартоў.

Асабліва ў нашым грамадзянсьцьве, выхаваным у атмосфэры бязуладнасьці і культу сілы, неспадзяваная і

---

# Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

**(Рэфэрат, чытаны ў Лодзі для афіцэраў Беларускіх Вайсковых Аддзелаў і служачых Беларускай Вайсковай Камісіі 8 лістапада 1920 г.).**

(Гл. № 19).

У Менск вярнуліся амаль ня ўсе камісары „Заходняй обласьці“. Начальнікам гарнізону быў назначаны той самы Крывашэін, што разганяў Усебеларускі Зьезд, з перадавымі аддзеламі чырвонай арміі ішоў на Менск камісар Бэрсон, вярнуліся Калмановіч і Розэнталь. Ляндэр даўно ўжо сядзеў у Маскве, як расейскі камісар дзяржаўнага кантролю і яго ролю палітычнага верхавода ў Менску фактычна замяняў цяпер другі бальшавік-латыш Кнорын.

Усе гэтыя камісары „Захадняй обласьці“ ўвесь час нямецкай окупацыі сядзелі ў Смаленску пад назваю „Облискомзап“ (парасейску „Западный Областной Исполнительный Комитет“). Гэты „Облискомзап“, перасяліўшыся ў Менск, адразу абвясьціў „правительство белорусских помещиков Белорусскую Раду распущенной и низложенной“ як гаварылася ў першым бальшавіцкім прыказе ў Менску. Усе сябры беларускага ўраду падлягалі, згодна з гэтым прыказам, арышту й перадачы ў рукі савецкіх уладаў.

Аднак зусім рассупоніцца ў сваёй палітыцы смаленскія камісары не змаглі, бо пашкодзілі ім бальшавікі-беларусы, што гуртаваліся ў Маскве вакол Камісарыяту Беларускіх Справаў і расейска-беларускай часопісі „Дзяньніца“. Рэдактар гэтай часопісі Жылуновіч (поэт Цішка Гартны) дабіўся таго, што ў Маскве яго багаславілі абвясьціць незалежную Беларускую Савецкую Рэспубліку ў Менску з Часовым Рабоча-Сялянскім Урадам на чале. Старшынёю гэтага ўраду стаў Жылуновіч, загадчыкам справаў і ведама што “душою“ ўсяго быў Кнорын. Камісарам загранічных справаў быў назначаны дробны менскі чыноўнік Фальскі, камісарам нацыянальных справаў—-Фабіян Шантыр, беларускі пісьменьнік. Абодва вядомыя ўжо па Усебеларускім Зьезьдзе.

Часовы бальшавіцкі ўрад Савецкай Беларусі выдаў 1-га студня 1919 году маніфэст, у якім, паміж іншым, пісалася да народаў Беларусі: „Ад сягоньняшняга дня і Вы разам з працоўным людам Расіі, Літвы, Украіны і Лацьвіі становіцеся вольнымі гаспадарамі Вольнай, Незалежнай Беларускай Рэспублікі, карыстаючымі поўнасьцю з сваіх правоў“...

Дзеля таго, што незалежнасьць спаміналася толькі ў адным гэтым месцы маніфэсту, прыходзіцца думаць, што бальшавікі лічыліся з фактам ужо агалошанай 25 сакавіка 1918 г. незалежнасьці Беларусі.

Рабоча-сялянскі ўрад Жылуновіча абвясьціў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі без абароны законаў, паказаўшы гэтым сваю сапраўды дзіцячую палітычную недалёкасьць.

Хаця-ж само слова „Рада“ выклікала пену на вуснах кожнага маскоўца-бальшавіка, марыўшага насадзіць слова „Совет“ на ўсім сьвеце і Жылуновічу з яго кампанамі трэ'было з гэтым лічыцца. Бэрсон на першым мітынгу ў самы дзень заняцьця бальшавіцкай арміяй Менску іначай не гаварыў да натоўпу, як разьюшваючы яго крыкам: „сьмерць тарыбам і радам“...

Рэзультатам, аднак, абвешчаньня Рады Рэспублікі без абароны законаў было тое, што ўся яе дэмократычная й соцыялістычная большасьць амаль што спакойна сядзела ў Менску, а гэткія сябры яе, як Серада, Міхайлоўскі і народны міністар прасьветы ў кабінэце выехаўшага ў Вільню Луцкевіча—Вацлаў Іваноўскі займалі навет немалыя пасады на савецкай службе.

Трэба сказаць праўду, што бальшавікі нікога з беларусаў, як такіх, не прасьледавалі, хаця ўрад Жылуновіча пратрымаўся вельмі нядоўга. (Голас з месца: „А арышты беларускіх эсэраў?“). Былі, праўда, арыштованы Мамонька, Іваноўскі і Трэпка, але першы з іх—за тое, што выступаў проці савецкае ўлады, як левы (трэба разумець расейскі) эс-эр, а два апошнія, як... палякі. Родны брат Іваноўскага—Юры быў тады ў Варшаве польскім міністрам, а родны бацька Трэпкі зьбіраў для вывазу ў Польшчу беларускія старадаўнія рэчы, будучы старшынёю нейкае польскае арганізацыі. Былі яшчэ арыштованы ня больш, як на суткі Палуся Бадунова з сястрою і Янка Серада

Беларускія эс-эры яшчэ пры выезьдзе Рады Народных Міністраў з Менску, рашылі заставацца на месцы. Адзін з іх лідэраў дайшоў да гэткага глупства, што пашоў на Пляц Волі прамаўляць з трыбуны Бэрсона, дзе пачуў крыкі: „вон, гэты пан з Беларускай Рады“, а некі чырвонаармеец, наставіўшы штых, проста заявіў: „слезай, а не то—сніму“. Прамова эс-эраўскага лідэра аб тым, што ў Радзе ён быў толькі таму, каб карыстацца ёю, як трыбунаю і наагул ведаць, што ў ёй робіцца, была гэткім чынам перарвана.

Беларуская незалежнасьць пад бальшавікамі была толькі фікцыяй, усё рабілася на маскоўскі капыл, а народныя камісары недоўгавечнага ўраду Жылуновіча былі толькі сьмешнымі манэкэнамі. Пасьля Жылуновіча справамі пачаў варочаць ужо вядомы нам ад часу Ўсебеларускага Зьезду Мясьнікоў.

Заняўшы Вільню, бальшавікі абвясьцілі ў ёй Савецкую Літву на чале з рабоча-сялянскім урадам Міцкевіча-Капсукаса. Беларусь злучалася бальшавікамі з Літвою пад назваю „Литбел“, усходнія часьці Беларусі прылучаліся да Маскоўшчыны, а тымчасам з захаду выступала проці бальшавікоў Польшча.

Раззброіўшы немцаў, палякі пачалі шпарка арганізоўваць армію пад камандай Язэпа Пілсудскага.

У палове красавіка месяца, якраз на Вялікдзень палякі спрытна раптам захапілі Вільню, выгнаўшы адтуль камісараў „Литбел'у“. Бэрсон быў захоплены палякамі ў палон і расстрэлены, рэшта камісараў на чале з Міцкевічам-Капсукасам у перапудзе ўцякла ў Менск. Вайна бальшавікоў з Польшчаю пачалася. Палякі, хаця й марудна пакрысе пасоўваліся на ўсход, а ў самае лета гукі гарматніх стрэлаў сталі далятаць і да самога Менску. Бальшавікі ўтварылі Раду Абароны з трох чалавек, якая мела ў Менску ўсю ўладу.

Пазволім сабе прыпомніць, што пераехаўшы ў Вільню, старшыня першага Народнага Сэкрэтарыяту Язэп Варонка ўвайшоў ад Віленскай Беларускай Рады ў склад арганізованага Літоўскай Тарыбаю кабінэту Вальдэмараса, як літоўскі міністар беларускіх

коштам гэтак малых ахвяраў і трудоў здабытая воля выклікала буру ў галовах. Нядаўныя нявольнікі, якія зносілі спакойна гнёт і пакорнасьць, калі пачулі сябе панамі, набралі сьмешнае фанабэрыі і з наіўным цынізмам пачалі прытарноўваць да іншых тыя самыя мэтоды ўрадаваньня, якія так балюча адчувалі на ўласнай скуры. Не памятныя на яшчэ сьвежыя крыўды, пазнаваныя ад чынавенства і зоолёгічнага расейскага нацыяналізму, чым барджэй пастараліся стварыць уласную бюрократыю, з'арганізованую на тыя самыя ўзоры і чым барджэй раздуць у масах шалёны, сьляпы польскі шовінізм.

Усё тое, што даўней, здушанае грубаю рукою наезьніка, сычэла толькі й гурчала, сягоньня, ня чуючы ніякага тормазу звонку і ня стрыманае ўнутраным моральным загадам, з упаеньнем аддаецца бязглуздым гарцаваньням, топчучы слабыя лёты незалежнай думкі і творчых пачынаньняў, падносячыся ўзаемна дзікім воклікам „ausrotten!“

Рэакцыя трыумфуе на ўсёй лініі.

Тое, што дзеецца цяпер у нас у Сярэдняй Ліцьве, ў Вільні—ёсьць поўным запярэчаньнем тым ідэалам волі, роўнасьці й братэрства, аб якіх мы марылі й за якія коп'я ламалі перад вайною. Урады самаўладнай бюрократыі, свойскі рэлігійна-нацыянальны фанатызм, патуральная дэмагогія складаюцца на агульны хмурны абраз краю і грамадзянства, ў якім топяцца нямногія ясьнейшыя праявы шчыра-грамадзянскага духу.

І тым страшнейшы ёсьць гэты стан, што ня відаць у нашым грамадзянсьцьве моцных элемэнтаў, якія станавіліся-б выразна проці запанаваўшай ідэолёгіі, якія паднялі-б рашучую барацьбу з рэакцыяй, са згубнай процэдурай буджэньня ў натоўпах найніжэйшых інстынктаў.

Што розныя Обсты стараюцца выперадзіць Грынгмутаў у сваёй пропагандзе рэтроградньасьці, обскурантызму і пляменнай нянавісьці — ёсьць гэта зьявішча сумнае, але зразумелае. Але найсумнейшаю праяваю зьяўляецца брак процідзейнасьці і падляганьня агульнаму псыхозу збоку тых, хто некалі групаваўся вакол „Przeglądu Wileńskiego“, а сягоньня разьбіты й стэрорызаваны трымаецца ў баку, альбо, што яшчэ горш, ператварыўшыся ідэйна, валачэцца ў хвасьце рэакцыі“.

Спамянуўшы аб тым, што пісалася, «Prz. Wil» ў 1911 г., аўтор артыкулу прызнаецца, што тагочасныя словы ня страцілі нічога з свае актуальнасьці, ня гледзячы на зьмену варункаў.

„Нацыянальны антагонізм ад касьцельных спатычак, паступова ўзмацняючыся, дайшоў да кульмінацыйнага пункту, да адкрытай барацьбы і ўзаемнага душэньня бяз літасьці...

Гэтыя словы артыкулу скірованы мусі ў бок Незалежнае Літвы, бо далей гаворыцца што:

„Польскі нацыяналізм хацеў-бы тую часьць, дзе пераважае насяленьне польскае й беларускае, адсэпараваць зусім ад таго абшару, які мае літоўскі характар...“

Спыніўшыся затым на польска-літоўскім непаразуменьні і патрэбе выхаду з яго аўтор канчае артыкул, як ён сам кажа, абаронаю так часта сёньня злаўжываным і профанованым лёзунгам „вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі“.

На наш пагляд—пражыты ўжо даўно шляхоцкі век, памёрлі з ім і ўсе шляхоцкія лёзунгі, якія ведама-ж не перастаюць быць красою польскіх архіваў.

## Аб Сойме ў Вільні.

Пад гэткім загалоўкам у беларускай сялянскай газэце «Кгупіса» (№ 32) зьмешчаны перадавы артыкул грамадзяніна Міколы Дубавіка. Дзеля таго, што артыкул можа служыць адбіцьцем агульнай беларускай думкі па закранутым пытаньні, падаем яго да ведама й нашых чытачоў:

„Кгупіса“ піша:

„Доля нашай роднай зямліцы, як ведама нашым сялянскім чытачом, яшчэ ня вырашана. Некалькі нядзель таму Ліга Народаў Віленшчыну разам з Ковеншчынай, так як яно павінна быць, прызнала незалежнай Дзяржавай са сталіцай Вільняй, дзе-б адна народнасьць не панавала-б над другой, але дзе-б яны ўсе былі зусім роўнапраўныя. Каб арганізаваць такую тутэйшую дзяржаву, тая-ж Ліга была нат' пастанавіўшы, каб гэн. Жэлігоўскі вывяў адгэтуль сваё войска, бо ў ім ёсьць дужа шмат жаўнераў ня тутэйшых, але прышоўшых з глыбіні Польшчы.

Да ўсяго гэтага, як ведама, не дайшло. Цяпер палякі думаюць долю Віленшчыны вырашыць праз Сойм у Вільні. Апошнім часам дужа часта польскія газэты пішуць аб тым, што ў Вільні хутка напэўна будзе скліканы Сойм і што гэты Сойм, як аб нас пастановіць, так і будзе. Гэтак думаюць палякі.

Жыдоўскае грамадзянства на гэту-ж справу заглядаецца крыху йнакш. Жыды ў Віленскі Сойм ня вераць ані трохі, і наскольки можна цяпер судзіць, яны да выбараў ня пойдуць. Думаюць так затым, што ў цяперашнім часе ў нас цалком запанавалі эндэкі (палітыкі, што за паноў стаяць) і дзеля гэтага немагчыма тая свабода, якая абавязкова патрэбна падчас выбараў і якой кожны народ мае права дамагацца. Выбары-ж бяз Жыдоў выглядалі-б нейкія куртатыя, бо Жыдоў у нас, асабліва-ж у Вільні, дужа шмат і, калі склікаць такую важную рэч, як сойм, дык іх абмінуць ніяк нельга, як нельга гэтага зрабіць і з ніякім народам.

Што датычыць Літоўцаў, дык і гаварыць нечага, што яны да гэтых выбараў ня пойдуць; зробяць яны гэта прадусім дзеля таго, што яны ўсе жадаюць відзець край наш незалежнай дзяржавай, а каб склікаць сойм да Вільні ў цяперашнім часе, дык аб гэтай незалежнасьці ня было-б і мовы, бо тады было-б зроблена тое, чаго пажадалі-б эндэкі і іхныя панскія брахуны „крэсовыя стражнікі“. Апрача таго, трудна таксама Літоўцаў завярнуць у ваглоблі Сойму, маючы на воку ўсё тое безгалоўе, якое яны апошнім часам пераняслі ад Ураду Сярэдняй Літвы. Гэтая Улада літоўскіх гімназістаў выгнала з будынку і будынак забрала пад польскую гімназію, выкінула з прытулку літоўскіх дзяцей, бо патрэбны быў будынак, закрыла літоўскі банк, літоўскую коопэратыву; а пры гэтым, як пісала закрытая літоўская газэта „Vilnius“, а нат' і польская „Gaz. Kr.“, не абышлося бяз дужа і дужа прыкрых здарэньняў. Словам, зусім ясна, што Літоўцы будуць проціў Сойму. Аднак, кожны разумны чалавек згодзіцца з тым, што выбары у Сойм з Віленшчыны і Вільні—з Бацькаўшчыны Літоўцаў так як Беларусаў і Палякоў, выбары бяз Літоўцаў, не дадуць ніякай карысьці, бо будуць несправядлівы.

А калі зайдзе гутарка аб нас, Беларусах, што-ж мы будзем рабіць падчас выбараў у Віленскі Сойм, як мы будзем трымацца, дык адказ сам напрашаваецца, што і мы да гэных выбараў ня пойдзем. Мы, Беларусы, да выбараў ня пойдзем, бо пайсьці ня можам і ня маем права. Пры сучасных варунках вольныя выбары немагчымы, дык немагчыма і вырашэньне правільнае і справядлівае лёсу нашай роднай Віленшчыны. Выбары маюць адбыцца з часткі штучна выразанай з усяго краю. Дзеля гэтага нам самым прыкладаць руку да таго, каб нас кроілі, ня то што не выпадае але было-б нягодна. Апошнім часам Беларусы дужа настрашаны і стэрорызованы. Не гаворачы ўжо аб розных зьдзеках над сялянамі з боку польскіх жаўнераў, бо гэта ў войску кожным здараецца, наш селянін церпіць яшчэ большы зьдзек з боку польскай адміністрацыі: школаў большасьць закрыты, высыланьне беларускіх вучыцялёў у Кракаў, прымушаньне іх беларускіх дзяцей і ў беларускай школе вучыць папольску, перайманьне і нішчаньне на почтах беларускай газэты, арганізаваньне гміны так, як жадаюць паны, маючыя на мэце выключна польскія інтарэсы, а то і асабістыя, забраньне земляў чыста беларускіх, беларускіх бяз ніякіх спрэчак палякамі паводле Рыскага міру з бальшавікамі, прылучэньне іх бяз ніякіх аўтаноміяў і гаспадарка на іх, як на землях выключна польскіх... усё гэта красачкі, якія зрабілі беларуса бясконца асьцярожным да тэй палітычнай работы, якую вядуць, ці якую думаюць весьці на нашых, у многіх мясцох супольных, землях, адны толькі палякі. Пекны польскі кліч: „як вольныя з вольнымі і роўныя з роўнымі“ даўно ўжо паліняў, аблез і абярнуўся ў зусім іншы: „як сільныя са слабымі“. Дык ясна, што як доўга адносіны Палякоў да Беларусаў ня зьменяцца самым аснаўным спосабам, патуль польскай палітычнай дзеяльнасьці ні адзін праўдзівы і шчыры Беларус не падтрымае, што знача, панашаму пракананьню, Беларусы ад выбараў устрымаюцца.

Праўда, ёсьць тут у Вільні адзін ягомасьць, родам беларус, якога Палякі на ўсякі выпадак купілі. Гэтым ягомасьцям ёсьць вядомы з найгоршага боку Аляксюк, прадаўца беларускай справы і здраднік Беларускага сялянскага працоўнага люду, у справах выбараў ня зробіць нічога, бо гэты люд аб ім ведае даволі і яго ад сябе прагоніць проч. Словам, аб гэтым ягомасьцю няма што гаварыць і Палякі (разумеецца, паны-эндэкі) мыляюцца, калі на яго рахуюць і саўсім бескарысна кідаюць на яго свае маркі.

І так, зьбіраецца Сойм з адных палякоў, самі яны яго склічуць і самі сябе выбіраць будуць.

Голас такога Сойму будзе голасам крычага на пустыні. Сам у сабе ён ня будзе мець ніякай вартасьці, і Ліга Народаў прызнаць яго не адважыцца.

Толькі гэта, пакуль што, можна сказаць аб Сойме ў Вільні“.

---

справаў. Літоўскі ўрад не назначыў ніводнага ліцьвіна камісарам у беларускія паветы, а ўсюды паназначаў на гэтыя пасады тых кандыдатаў-беларусаў, якіх падавала Віленская Беларуская Рада й Міністэрства Беларускіх Справаў. Адносіны беларусаў з літоўцамі нарыхтоўваліся, як найлепей, не пашкодзілі гэтаму й незалежныя ад абедзьвюх старон падзеі польска-бальшавіцкай вайны.

Заняўшы Вільню, Пілсудскі 23 красавіка 1919 г. выпусьціў вядомую адозву „да жыхароў быўш. Вялікага Князьства Літоўскага“. Шляхоцкі лёзунг гэтае адозвы «вольны з вольным, роўны з роўным» застаўся дасюль бяз жыцьця.

А грукат гарматаў пад Менскам рабіўся ўсё чутнейшым. Палякі ўжо дайшлі аж да Семкава-Гарадку, што ў 14 вёрст. ад Менску. Чутно было ўжо й грукат кулямётных стрэлаў. Аднак на першы раз Семкава-Гарадок быў палякамі пакінены, яны адыйшлі назад, каб з новаю рашучай сілаю навалiцца на менск.

8-га жніўня 1919 году, пасьля моцных начных баёў пад Менскам, ён быў з боем заняты палякамі каля 12 гадзіны ўдзень. Настрой беларускага грамадзянства да палякоў быў як найлепшы. На іх глядзелі, як на асвабадзіцеляў і шчыра спадзяваліся ад іх прызнаньня за Беларускім Народам усіх, належных да яго, правоў. Хадзілі розныя навет чуткі, быццам у ліку польскага войска на Менск ідуць і беларускія аддзелы. За гэтыя апошнія мусі лічылася Літоўска-Беларуская Дывізія. Напраўду ніякіх беларускіх аддзелаў з палякамі ня было, а перадавымі аддзеламі, гнаўшымі бальшавікоў, былі пазнанцы.

Чуткі аб беларускім войску мелі пад сабою, як грунт толькі тое, што істнавала ў Вільні беларуская вайсковая арганізацыя, якая давяла справу да утварэньня Беларускае Вайсковае Камісіі толькі ў кастрычніку 1919 году, калі йзноў, як-бы аднаўляючы сваю сэсію пачала зьбірацца Рада Рэспублікі. Ні адна група Рады проці тварэньня беларускага войска нічога ня мела, раздаваліся толькі галасы за тое, каб дабіцца згоды польскага камандаваньня на варунак, невыступаньня беларускага вайска проці арміяў суседніх народаў, апрача, разумеецца, маскоўцаў, для вызваленьня ад якіх і утваралася, паводле думкі беларусаў, наша нацыянальнае войска.

Трэба заўважыць, што палякі ваявалі тады з украінцамі за Усходнюю Галіцыю, неяснымі былі адносіны літоўска-польскія й польска-лацвяйскія.

Ясна, што Рада Рэспублікі разглядала палякоў, як окупантаў, хаця окупацыю іх лічыла больш спагаднаю за іншыя, быўшыя дасюль.

У часе пабыту начальніка Польшчы Я. Пілсудскага ў Менску, ў дэлегацыю да яго згадзіліся ўвайсьці навет і беларускія соцыялістыя-рэвалюцыянэры (эс-эры). Дэлегацыя паднімала навет гэткія пытаньні, як права незачэпнасьці сяброў Рады Рэспублікі і іншае і на ўсё адтрымала як-бы задавальняючы адказ.

Ужо назаўтра па заняцьці Менску камандзер Літоўска-Беларускага фронту гэнэрал Шэптыцкі выдаў адозву да грамадзян места Менску, якая была надрукована папольску й... пабеларуску. Гэткім чынам пісаліся ўсе ўрадовыя абвешчаньні; расейцы й мова іх у краі як-бы й не прызнаваліся, хаця ня ўсюды й не заўсёды роўна.

На сходзе ў Беларускім Настаўніцкім Інстытуце прадстаўнікі беларускага грамадзянства незабаўна утварылі „Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт“, які пастанавіў лічыць сябе выняткова грамадзкай арганізацыяй, пакідаючы пытаньні палітычныя Радзе Рэспублікі і Радзе Народных Міністраў.

Часовы Нацыянальны Камітэт па прапазыцыі палякоў ахвотна дэлегаваў сваіх прадстаўнікоў у назначаны часова Магістрат, Сьледчую Камісію па рэвізіі арыштованых, якіх вастрог ня мог навет зьмясьціць, і ў іншыя грамадзкія дробныя інстытуцыі.

Эмісары Час. Нацыянальнага Камітэту выяжджалі часам і на провінцыю пры арганізацыі павятовых магістратаў.

Мне асабіста давялося быць пры назначаньні бабруйскага магістрату.

Цікава спомніць гэтае здарэньне, каб ілюстраваць ім тую няпэўную лінію польскай палітыкі, якая ў Беларусі рабілася.

Усім вядома, што ніякага офіцыяльнага прызнаньня Беларусі збоку Польшчы ня было. Кіраваў окупаванымі землямі „Cywilny Zarząd Ziem Wschodnich“, на чале якога назначаны быў стаяць п. Юры Асмалоўскі, меўшы ў Менску сваім намесьнікам п. Ўладыслава Рачкевіча, які пасьля офіцыяльна зваўся начальнікам менскага вокругу.

У Бабруйск я выехаў з двама намесьнікамі Рачкевіча—Піотроўскім і другім даволі маладым чалавекам, прозьвішча якога ня помню.

Калі ў Бабруйску, мясцовая дэлегацыя вітала Піотроўскага, як прадстаўніка вольнае Польшчы, дык на прамову пабеларуску сьвяшчэньніка Давідовіча, які выказаў надзею, што Польшча, стаўшы вольнаю, не пакрыўдзіць многапакутнага беларускага народу, пан Піотроўскі скончыў сваю прамову (папольску) вельмі многазначнымі словамі, што вольнымі вы ў Польшчы былі, вольнымі і будзеце.

Другі намесьнік начальніка вокругу гаварыў з бацюшкай пабеларуску і з моцнымі жэстамі можа й зусім шчыра цьвярдзіў, што хаця расейцы (быўшае чынавенства) ў Бабруйску й гуртуюцца, але ў магістрат яны дапушчаны ня будуць, бо ніякай Расеі тут няма й ніякія расейцы пад увагу ўладаю не бяруцца.

Быў ужо намечаны склад магістрату, ў які ўвайшлі палякі, жыды і беларусы.

Аднак, якое было маё зьдзіўленьне ўсяго толькі назаўтра, калі я быў пакліканы з бабруйчанінам-беларусам Усьпенскім да мясцовага бабруйскага шляхціча Фастовіча-Загорскага, які й заявіў нам, што ўчарайшае рашэньне аб магістраце нічога ня значыць, бо ён, Фастовіч-Загорскі, вярнуўся ўжо амаль не з Варшавы і прывёз па гэтай справе, як ён сам сказаў, поўны „карт-бляншч“.

Лішне будзе спамінаць, што пры гэтым п. Ф.—Загорскі даводзіў нам доўга аб праве... расейцаў на удзел у магістраце, бо „сколькі-ж вы налічваеце ў Бабруйску беларусаў?“—цынічна спытаўся Усьпенскага п. Фастовіч-Загорскі.

Моцную крыўду зрабілі палякі Беларусі, не прызнаючы яе, але аб шкодзе гэтага для іх-жа ўласных інтарэсаў хай падумаюць яны самі.

**Краўцоў Макар.**

(Канец будзе).



назначаны д-р Бруцкус з партыі сыяністых.

— Злучаныя Штаты паведамілі савецкі ўрад, што ён можа прысылаць неофіцыяльных прадстаўнікоў на вашынгтонскую конфэрэнцыю.

— Праца англа-ірляндзкай конфэрэнцыі аднавілася.

— Лейд-Джордж далажыў у парлямэнце аб ірляндзкіх перагаворах і выказаў надзею на добры канец.

— Газэты паведамляюць што войскі Пятлюры б'юцца ўжо ў раёне Жмэрынкі. Імі камандуе атаман Забалотны, які ў свой час уцёк у Румынію і цяпер з войскамі Пятлюры перайшоў украінскую граніцу.

— Гаспадарчыя польска-нямецкія перагаворы маюць пачацца ў Ополе 20 лістапада.

— Лейд-Джордж заявіў у парлямэнце, што Вярхоўная Рада бязумоўна расьследуе пытаньне аб Усходняй Галіцыі пасьля ўрэгуляваньня іншых польскіх справаў.

— Рада паслоў патрэбавала ад Малой Антанты дэмобілізацыі войска, дадаючы, што трэбаваньне ад Вэнгрыі звароту мобілізацыйных расходаў ня мае грунту.

— Ангельскае ўрадовае паведамленьне пацьвярджае, што перарваны перагаворы паміж Англіяй і Эгіптам аб іх далейшых адносінах. Прычынаю гэтага зьяўляецца катэгорычная адмова Англіі вывесьці войска з раёну Суэцкага каналу.

— Назначаны новы польскі пасол у Маскву Стэфанскі гэтымі днямі выяжджае на месца службы.

— Раззбраеньнем Вэнгрыі будзе кіраваць францускі гэнэрал Вэйганд.

— Дзеля ад'езду бальшавіцкага пасла ў Варшаве Карахана ў Бэрлін яго абавязкі спаўняе Оболенскі.

— Распараджэньнем міністра ўнутраных справаў Лацьвіі за межы гаспадарства выселены 147 чужаземцаў, у тым ліку 87 грамадзян Літвы.

— Нямецкія рабочыя выступілі з протэстам проці распараджэньня гэн. Нолета аб зносе заводаў у Шпандау, што вырабляюць зброю.

— Савецкая прэса паведамляе, што паміж бальшавікамі, меншавікамі й бундаўцамі зроблена згода. У раду народных камісараў будуць уваходзіць меншавікі і бундаўцы.

— Францускі ўрад ня даў Шаляпіну пазваленьня прыехаць у Францыю, дзе Шаляпін хацеў даць некалькі дабрачынных концэртаў.

— Немцы зьбіраюцца ўрачыста сьвяткаваць дзень 9 лістапада — ўгодкі нямецкай рэвалюцыі.

— У Норвэгіі пры выбарах у стортынг (парлямэнт) перамаглі правыя партыі. Камуністыя і рабочая партыя адтрымалі толькі каля 50 тысяч галасоў.

— Польскія газэты паведамляюць, што на лініі Камянец—Праскураў адбываюцца ўпартыя бai паміж бальшавікамі і пятлюраўцамі.

*Панядзелак, 7 лістапада.*

— 5 лістапада польскі міністар заграничных справаў Скірмунт прыбыў у Прагу; на вакзале яго сустрачалі: прэм'ер - міністар Чэхаславакіі Бэнэш, сябры кабінэту, дыплёматычны корпус. Прэзыдэнт Масарык частаваў міністра сьнеданьнем.

— У Будапэшце (Вэнгрыя) заборонены танцы й розныя іншыя гульні, з прычыны паважнага палажэньня, ў якім знаходзіцца ўвесь край.

— 19 лістапада ў Варшаве склікаецца зьезд Польскае Народнае партыі (P. S. L.).

— У Падольлі йдуць заўзятыя баі паміж украінскімі паўстанцамі і бальшавікамі. Паўстанцы йдуць на Жмэрынку.

— У бальшавіцкай газэце „Правда“ зьмешчаны артыкул Радэка, які вельмі нападае на Польшчу, за яе нібыто ваяўнічую палітыку.

— „Gaz. Warsz.“ піша, што Літоўскі Урад паслаў ноту Лізе Народаў, паказваючы на цяжкое палажэньне літоўскіх інстытуцыяў у Вільні. У ноце паказаны факты зачыненьня віленскімі ўладамі літоўскай гімназіі, інтэрнату, прытулку і банку.

— Забастоўка рабочых тэкстыльнае прамысловасьці, якая цягнулася больш як 6 тыдняў, у паўночна-ўсходняй Францыі ўжо скончылася. Рабочыя згадзіліся на паніжэньне платы на 15 сантымаў у гадзіну, замест трэбаваньня гаспадароў аб паніжэньні на 20 сант. Гэтае паніжэньне рабочыя прызнаюць за часовае; калі дарагоўля будзе расьці, дык і плата павінна падвышацца.

— Польскія ўлады шчыльна зачынілі польска-украінскую граніцу на Збручы падвойным кардонам войскаў, каб недапусьціць ніякай камунікацыі паміж Украінай і Польшчай. Адначасна выданы прыказ трымацца нэйтралітэту ў паглядзе на савецкі ўрад.

— У Вашынгтон прыехала японская дэлегацыя на конфэрэнцыю аб раззбраеньні.

— Савецкі Урад ізноў патрэбаваў ад Румыніі выдачы Махно.

— У Нью-Йорк прыехалі Мілюкоў і Ауксенцьеў, як упаважненыя расейскай эміграцыі на вашынгтонскую конфэрэнцыю дзеля азнаямленьня яе з сапраўдным палажэньнем справаў у Расеі.

*Аўторак, 8 лістапада.*

— З Масквы перадаюць, што расейскі ўрад нотаю да ўсіх дзяржаваў заявіў аб няпрызнаньні рашэньня вашынгтонскай конфэрэнцыі па азіяцкіх справах.

— Японскі прэм'ер - міністар Гара забіты на вакзале ў Токіо пры выхадзе яго на пляцформу. Забойца затрыманы.

— Тэкст пастановы вэнгерскага парлямэнту дапушчае ў будучыні заняцьце Габсбургам трону.

— Португальскі Урад даў згоду на зьмяшчэньне Кароля на высьпе Мадэйры.

— Нямецкі цэнтральны профэсыянальны саюз выказаўся за згоду паміж Польшчаю й Нямеччынай.

— Ангельскі ўрад замяраецца ў бліжэйшым часе выступіць з вострою нотаю да саветаў з прычыны новых бальшавіцкіх інтрыгаў і антыангельскае агітацыі на ўсходзе.

— На Украіне разрастаецца сялянскае паўстаньне проці бальшавіцкага войска. Паўстанцы занялі Ліпамер, Умань, Жытомір і іншыя месцы. Цікава, што паўстала ўсё насяленьне, навет кабеты, якія з сярпамі й нажамі кінуліся на мясцовых камуністых. Таксама й вёскі абараняюцца кабетамі.

— Польскі упаважнены ў Маскве падаў савецкаму ўраду ноту, паказваючы на нелёяльнае спаўненьне бальшавікамі рыскага дагавору.

— На конфэрэнцыі Скірмунта з Бэнэшам у Празе мае быць і прадстаўнік Францыі.

— Польскі прэм'ер-міністар Панікоўскі сказаў на пасяджэньні гарадзкое рады ў Кракаве прамову аб бліжэйшых задачах дзяржаўнае палітыкі.

— У адказ на рэарганізацыю вэнгерскага консульства ў Варшаве ў пасольства, польскі ўрад надаў свайму упаважненаму ў Будапэшце пасольскае званьне.

— Савецкія ўлады аддалі ў распараджэньне польскае рээвакуацыйнае камісіі вядомы малюнак Мацейкі „Грунвальд“.

— Польскі пасол пры Украінскай раднай рэспублікі Пулаўскі зрабіў офіцыяльны візыт прэзэсу народных камісараў Ракоўскаму.

— У Стаўбцох, як павед. „Gaz. Warsz.“, спусьціўся бальшавіцкі аэроплян. Мясцовыя ўлады адразу зьявіліся на месца спуску, але ля-

---

адарваць ад яе вачэй. Неапісальны чар біў з усей маладой яе істоты.

Я пайшоў за імі, стараючыся загаварыць. Ні слова адказу. Як скрозь туман глядзеў я на плывучыя па вадзе вянкі і гарэўшыя магутным полымем агні, разложаныя за рэчкай пад крутой гарою. Як заварожаны, я йшоў крок за крокам за Стасяй, чакаючы хвіліны, калі можна будзе з ёй загаварыць. Гэтак я давёў Стасю да варот яе хаткі і тут-кі страціўшы сусім надзею, я сабраўся з адвагай і, заступіўшы ёй дарогу, як умеў, найпрыгажэй прасіў, каб прыняла ад мяне букецік рожаў. Задрыжалі ручкі Стасі, апусьціліся доўгія валасінкі чорных вачэй, пасьля падняліся, быццам хацелі сказаць нешта, зноў апусьціліся і маленечкая ручка працягнулася, каб прыняць кветкі. Стася прыняла кветкі, навет дзякуй не сказала.

З таго часу мы няраз спатыкаліся з Стасяй.

Дзіцянё малое! Я ведаў, яна таемна цалавала рожы, каторыя я прыносіў ёй, трацячы свае апошнія грошы; глядзела на мяне сваімі чорнымі, поўнымі агню, вачыма, а калі пытаўся яе аб чым, не казала нічога, толькі сьмяялася сваім сярэбраным сьмехам.

Прыйшоў час, я сказаў Стасі—люблю. Яна і тым разам адказала мне сваім сьмехам.

Доля кінула мяне пасьля таго далёка ад роднага краю і я страціў Стасю з вачэй. Ні вестачкі ня меў аб ёй, ні слыху. Праз два гады толькі ў турме адтрымаў ад яе ліст, напісаны няўмелай рукою. Яна пісала:

„Я вельмі цябе люблю і так хацела-б пабачыць. Да сьмерці Твая Стася“.

Я ня мог тады прыйсьці на твой воклік, Стася! А калі вырваўся на волю зноў ня мог знайсьці цябе і з часам забыўся.

Я цэлы сьвет хацеў прыціснуць да грудзей маіх; я хацеў любіць усіх людзей і ў думках маіх ты, Стася, адышла далёка. Стогн бяздольных заглушыў у маіх вушох твой вясёлы сярэбраны сьмех, прыгожы і такі каханы тварык твой сьцёрся абразамі людзкой нядолі.

Я запомніў аб табе, бо запомніў аб сабе, Стася!

Скрыпат дзьвярэй і ўляцеўшы ў хату вецер, перарвалі на хвіліну думкі мае. „Няйначай Ігнат прынёс гарбату“,—падумаў я і прачхнуўся.

Дровы дагарэлі і ў каміне цяплілася толькі грудка чырвоных вуглеў.

Думка аб гарбаце прыпомніла мне аб голадзе, але не хацелася будзіцца: хацелася зноў заснуць і зноў уваскрасіць толькі што бачаныя вобразы, і я далей, як загыпнотызованы, глядзеў у чырвоныя іскрачкі папялеўшае паволі грудкі вуглёў. Але думкі, раз спалоханыя, ўжо не варочаліся. Ў хаце зрабілася цёмна і, адагнаўшы астаткі дрымоты, я толькі хацеў клікнуць Ігната, каб хутчэй запаліў сьвечку і даў гарбаты, як раптам ад дзьвярэй панясьліся чароўныя гукі песьні. Нейкі моцны, жаноцкі голас пеяў:

„Ты адзін тут далёка ад роднай зямлі
Глядзіш як камін дагарае!
Гэтак гаснуць у сэрцы каханьня агні
Калі з болю душа памірае.

Ты тужыш, дык аб чым, скажы, думкі твае,
Ці аб шчасьці былым спамінаеш,
Як дзяўчыну кахаў, цалаваў як яе
Што-ж так сумна ў камін пазіраеш?“...

Я задрыжаў, пачуўшы песьню. Аглянуўся, але нічога ня мог пазнаць, бо ў хаце зрабілася зусім цёмна—вуглі ледзь тлелі.

Дрыжачаю рукою я зграб з зямлі астаткі дроваў, кінуў у камін, разварушыў вуглі, але агонь не хацеў разгарацца.

А песьня лілася далей:

„Дык дазнайся: каханьне той самы камін,
Што найлепшыя зьнішчыць надзеі,
Спаліць сэрца, ў душы жаль пакіне адзін,
Вечны жаль, пакуль цела ня стлее“.

Я ні жывы, ні мрэц, дуў у вугольлі, каб асьвяціць хутчэй хату і праканацца, што гэты голас, такі мне знаёмы, ня сон, каторы разьвеяцца можа, што песьня гэта, ня жарты духоў нячыстых, каторых, паводлуг гутарак, так шмат у Мэнджылі, і я дмухаў ў вугольлі, ажно яны бухнулі агнём, калі сярэбраны голас, паўтараючы апошнія словы песьні, з неапісальнай тугой выводзіў з набалеўшых грудзей:

„Жаль пакіне адзін, вечны жаль...“

Я адвярнуўся і пазнаў: з-пад касынкі міласэрнай сястры выглядалі знаёмыя мне вочы...

— Стася!—азваўся я.

Песьня абарвалася разам.

— Гэта ты, ты, Сцяпан!?

Страх і радасьць дрыжалі ў голасе Стасі. Яна выцягнула рукі, быццам хацела кінуцца да мяне, і затрымалася, падалася назад і разам захісталася, і абясьсілеўшая ўпала на мае рукі.

**Дзядзька Пранук.**

(Працяг будзе).

# Ля мора.

Мора шырокае, чорнае мора
Хвалі нясуцца адна за другой
Там разьбіваюцца з трэскам аб горы—
Рэха-ж ідзе па пустыне глухой.

Эх, я адзін. Ні душы чалавечай
Тут навакола нідзе ня відно...
Толькі над дзікай, бурлівай галечай
Кнігі сваё ўсё скрыгочуць адно.

Човен прывязаны моцна на моле
З жахам гляджу я. Агортвае жаль.
Кроў-жа іграе. Ірвецца да волі.
Рвецца да мора... ў бурлівую даль.

Досыць развагі душы разбалелай
Стой замаўчы ты, мой голас, ціхі—
Еду у мора адважна і сьмела...
Гэй, на спатканьне вам, хваляў вярхі!

**І. Д.**

